

*“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)*

# ШКЛОЎ-*інфо*

**№10** (112) травень 2015

ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА

*Выходзіць 2 разы ў месяц* *Заснавана ў ліпені 2009 г.*

**Николай Статкевич** этапирован из Шкловской колонии в тюрьму №4 в Могилеве. Там он должен находиться до конца срока - 1 год, 7 месяцев и 15 дней. Николай Статкевич — единственный кандидат в президенты Беларуси на выборах 2010 года, который до сих пор находится в заключении. В мае 2011-го г. он был приговорен к шести годам лишения свободы по обвинению в организации массовых беспорядков в день президентских выборов. Международные правозащитные организации признали Статкевича **политическим заключенным.**

**Последний звонок** в школах, гимназиях и лицеях Могилевщины прозвенит 29 мая. В этом году выпуск учащихся 9-ых классов составит более 10 с половиной тыс. человек, 11-ых классов – около 6 с половиной тысяч. Торжественные мероприятия «Последнего звонка» состоятся по области в субботу 30 мая.

Инвестиции омского холдинга **“Омск Карбон Групп”** в белорусский проект строительства завода по производству технического углерода в СЭЗ “Могилев” оцениваются в **4 млрд рублей**. Даже в случае ужесточения Евросоюзом санкций новый завод будет иметь гарантированного крупного потребителя — концерн “Белшина”. С мая 2015 года строительство белорусского завода вступает в активную фазу. Первая товарная продукция должна быть произведена весной 2016 года, а к концу 2017-го завод должен выйти на объем производства в 160 тысяч тонн в год.

## ПАРА ЗАПРАШАЦЬ ЛУКАШЭНКУ Ў ШКЛОЎ

26 красавіка 2015 года А.Лукашэнка наведаў Слаўгарадскі раён Магілёўскай вобласці, як адзін з рэгіёнаў пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі ў 1986 г.. За час наведвання раёна ён пабываў на шматлікіх аб’ектах г.Слаўгарада, сустрэўся з гараджанамі, ветэранамі вайны.

Пасля яго ад’езду са Слаўгарада, мне ўдалося паразмаўляць з гараджанамі і, нават, з адным непасрэдным удзельнікам сустрэчы з кіраўніком краіны. Слаўгарадцы выказалі розныя ўражанні аб гэтым мерапрыемстве, але ў адным іх погляды цалкам супалі – гэта, што жыхары горада, мясцовыя ўлады вельмі прыстойна падрыхтавалі горад для сустрэчы высокага госця, і што горад Слаўгарад так шыкоўна ніколі раней не выглядаў.

Так склалася, што ў Слаўгарадзе за ўсе часы незалежнасці краіны не праводзіліся вялікія мерапрыемствы дзяржаўнага маштабу. У эканоміку, інфраструктуру, добра-ўпарадкаванне раёна не ўкладаліся аграмадныя бюджэтныя сродкі, як гэта было ў іншых рэгіёнах. Але жыхарам раёна, мясцоваму кіраўніцтву пры мінімальных фінансавых укладаннях з бюджэту ўдалося зрабіць так, што горад стаў выглядаць не горш, а, нават, і лепей за іншыя гарады, дзе ў розныя гады праліваліся грашовыя “дажджы” на добраўпарадкаван-не тэрыторый. А ўжо 2 мая 2015 года А. Лукашэнка ў чарговы раз за апошнія месяцы наведаў Шклоўшчыну, дзе ў яго адбылася нарада па пытаннях развіцця фермерства. Мы не можам канстатаваць, ці звярнуў ён увагу на гэты раз на стан добраўпарадкавання горада, праязджаючы праз Шклоў на Александрыю, але, калі звярнуў, то адназначна павінен быў заўважыць, як змянілася сітуацыя з добраўпарадкаваннем у негатыўны бок.

У адным з нумароў “Шклоў-інфо” за красавік 2015 г. рэдакцыя газеты ўжо ўздымала гэтае пытанне, і раённыя ўлады станоўча адрэагавалі на крытычны матэрыял аб канкрэтных фактах размешчаных ў газеце, часткова прыняўшы меры па выпраўленні сітуацыі на ўказаных камунальных аб’ектах. Але, на жаль, надалей справа не пайшла.

Відаць, усё пагалоўна кіраўніцтва Шклоўскага райвыканкама і Жылкамгаса з нядаўняга часу носяць якіясьці “ружовыя” акуляры, што скажаюць іх зрок і не дазваляюць бачыць рэальны стан рэчаў.

Ну, як можна, напрыклад, рамантаваць сцены гарадской лазні не ліквідаваўшы прычыны гэтых разбурэнняў. Бо, да прыкладу, ўжо колькі год на сценах лазні растуць бярозкі, якія сваімі каранямі развальваюць структуру цэглы. А можа быць гэта асваенне кіраўніцтвам ЖКГ

і райвыканкама новага спосабу нарыхтоўкі венікаў?

Або яшчэ прыклады, якія немагчыма абмінуць…У сакавіку 2015 года з вялікай пампезнасцю быў адчынены новы магазін “Родны кут” па адрасе вул.Дзікуна, 26 у Шклове. На адкрыцці прысутнічалі старшыня райвыканкаму Бойка, яго намеснік Гузаў, кіраўніцтва райспажыўсаюзу, іншае чынавенства, былі запрошаны прадстаўнікі тэлебачання, радыё, газет. Гараджанам адкрыццё гэтага шэраговага аб’екту - магазіна было прыпаднесена як вялікае дасягненне мясцовых уладаў. І той, хто быў на адкрыцці і бачыў толькі фасадную частку аб’екту, быў з большага задаволены. Але ж варта было заглянуць з супрацьлеглага, тыльнага боку аб’екту, то можна было заўважыць і кучы смецця, і незавершанае добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол будынка. І самае прыкрае, што пры пракладцы камунікацый да магазіна будаўнікамі была пашкоджана ды так і не аднаўлена дабротная тратуарная дарожка да жылога дома. У Шклове ўжо, відаць, закладзена традыцыя – пры будаўніцтве аднаго аб’екта – ламаць іншыя.

Складваецца ўражанне, што шклоўскае чынавенства днямі сядзіць у сваіх кабінетах, або шастае па горадзе ў службовых аўтамабілях, не бачачы, што дзеецца ў горадзе. Нават заробкі ім, мабыць, прыносяць у кабінеты на працоўнае месца. Бо, каб яны атрымлівалі іх па картках, то заўважылі б, што дзеецца на вуліцы ў раёне аграпрамбанка. Відаць, каб яно зашавялілася, неабходны прыезд у горад кіраўніка дзяржавы, дзе б ён мог пахадзіць па вуліцах, сустрэцца з жыхарамі і ў выніку зрабіць неабходныя высновы. Па іншаму нашае чынавенств працаваць не ўмее. Таму, паважаныя шклаўчане, давайце прапануем кіраўніку краіны, каб і ён не проста праязджаў праз горад па маршруце на Александрыю, а зрэдку выходзіў з машыны і праходзіўся пешшу па вуліцах горада. Глядзіш, і ад яго прыездаў на радзіму шклаўчанам будзе карысць.

*Р.Кастусёў*

## Маніторынг улады

Праведзены ў канцы 2014 года грамадзянскай ініцыятывай “Шклоўскі магістрат” маніторынг дзейнасці мясцовай улады, дзяржаўных арганізацый і служб выявіў даволі цікавыя адносіны грамадзян да мясцовага чынавенства. Нагадаем, актывісты ГІ “Шклоўскі магістрат” прааналізавалі выказванні 500 жыхароў Шклова і раёна па самых разнастайных баках жыцця. Атрыманы Індэкс грамадскай ацэнкі (рознасць долі станоўчых адзнак (“добра”) і адмоўных (“нездавальняюча”) наглядна адлюстоўвае сітуацыю з ацэнкай дзейнасці ўладных структур. Такім чынам, у зоне грамадскага нездавальнення аказаліся жыллёва-камунальная гаспадарка раёна (негатыў больш пазітыва на 37,5%), раённая бальніца (-26,7%), раённая заканадаўчая ўлада, якая мае пассіў у 26,0%, раённая выканаўчая ўлада з перевагай “кепскіх” ацэнак над “добрымі” на 20,1%, арганізацыя бытавых паслуг (-14,2%), адміністрацыя рынку (-12,0%), ахова прыроды (-11,3%). Блок так званых сілавых структур раёна таксама аказаўся ў зоне адмоўных грамадскіх ацэнак ( міліцыя з мінусам 8,4%, пракуратура з мінусам 7,4%, суд з мінусам 6%).

І амаль раўнаважныя суадносіны “добрых” і “кепскіх” ацэнак атрымаў аўтобусны парк, але ўсё ж з невялікім ухілам у мінус (-3%).

Рэйтынг самых добразычліва ацэненых грамадзянамі арганізацый раёна ўзначаліла аптэка (добрыя адзнакі перабольшваюць негатыўныя на 55,1%). На другім месцы аказалася раённая служба Міністэрства па надзвычайным здарэнням (на 46,7%), на трэцім - гаргаз (на 38,5%), на чацвёртым - праца раённых сувязістаў (на 36,8%). Такая рэакцыя рэспандэнтаў на сітуацыю гаворыць як аб магчымасцях дзяржаўных служб, так і аб адэкватнасці ацэнак жыхароў.

Такім жа чынам пакажам грамадскія ацэнкі розных галін гаспадарчага комплексу Шклоўсакага раёну ў 2014 годзе. Калі меркаваць па грамадскай ацэнцы, то сітуацыя ў раённай гаспадарцы не зусім добрая. Усе без выключэння галіны эканомікі раёна атрымалі нездавальняючыя адзнакі. Самае складанае становішча, калі меркаваць па ацэнках жыхароў Шклоўскага раёну, на прадпрыемствах прамысловасці - доля адмоўных адзнак (“нездавальняюча”) у 5 разоў перавышае працэнт ацэнак “добра”. Болей чым у два разы грамадскі негатыў пераважае пазітыў наконт стану сельскай гаспадаркі раёну, дзяржаўнага гандлю і ў арганізацыях дарожнай службы. Высокі ўзровень праблем у раёне характэрны для асабістых гаспадарак і будаўніцтва.

У найбольшай ступені наблізіліся да зоны перавагі добрых адзнак прыватны сектар раённай эканомікі ў асобе фермерскіх гаспадарак і прыватнага гандлю. Да эканамічнай праблематыкі можна аднесці таксама пытанні, якія тычацца працаўладкавання і даходаў грамадзян. Праблема працаўладкавання, на думку выказаўшыхся жыхароў раёну, з’яўляецца самай значнай - па ёй адмоўна выказаліся 131 чалавек, ці 26% ад усёй колькасці рэспандэнтаў. Сярод іх жыхароў гораду 90 (69% ад выказаўшыхся) і жыхароў вёскі 41

чалавек (31%). Мужчын выказалася 54 чалавекі - 41%, жанчын - 77 чалавек, ці 59% ад колькасці выказаўшыхся па праблеме працаўладкавання. Асабліва актуальна гэта праблема для жыхарак Шклова з сярэдне-спецыяльнай адукацыяй ва ўзросце 31-45 гадоў.

Амаль не запатрабаваны на рынку працы ў раёне работнікі з сярэдняй адукацыяй, мужчынам лягчэй працаўладкавацца, чым жанчынам. У сельскай мясцовасці працаўладкаванне на высокааплочваемую працу з'яўляецца праблемай для ўсіх рэспандэнтаў.

Ацэнкі грамадзян асабістага матэрыяльнага становішча блізкія да панічных, бо дрэнных адзнак у 29 разоў болей за добрых (64,1% супраць 2,2%). Аб гэтым сведчыць таксама той факт, што доля негатыўных адзнак грамадзянамі іх магчымасці працаўладкавання (з чым якраз і звязаны дабрабыт шклаўчан) амаль у 23 разы перавышае працэнт аптымістычных адзнак (суадносна, 68,3% і 3,0%). Толькі 22 чалавекі з кожнай тысячы жыхароў Шклоўскага раёну поўнасцю задаволены ўзроўнем сваіх даходаў. Найвышэйшы ўзровень нездаволе-насці зафіксаваны сярод гарадской моладзі і асоб сярэдняга ўзросту (79%), а найменшы - у групе вяскоўцаў ва ўзросце старэй 60 год (28%).

Гэта значыць, што пік сацыяльнай нездаволенасці матэрыяльным становішчам прыходзіцца якраз на найбольш актыўную частку насельніцтва раёна, ад якой можна чакаць не толькі пасіўнай, а і актыўнай рэакцыі на існуючую эканамічную сітуацыю, якая працягвае пагаршацца. І гэты пасыл грамадства трэба ўлічваць цяперашняй уладзе пры рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў Шклоўскім раёне.

***ГІ "Шклоўскі магістрат"***

# Лукашенко: время частной собственности на землю не пришло

**Время частной собственности на землю в Беларуси еще не пришло. Такое мнение высказал сегодня во время встречи с фермерами Могилевской области в агрогородке "Александрия" Шкловского района Александр Лукашенко.**

*"Мы этот вопрос будем рассматривать. Если это при мне будет, то я гарантирую, что вы будете первыми, кто получит право частной собственности на землю. Я говорю это не потому, что я с вами встречаюсь, а потому что вы доказали своим трудом, что это ваша земля"*, - сказал глава государства.

В то же время, заметил президент, исходя из опыта, самое важное принять решение вовремя. *"Вот, понимаете, застопорилось и дальше не идет - и тогда нужно мгновенно реагировать. А вы, уважаемые фермеры, очень правильную оговорку сделали: "Пока это не тормозит развитие фермерства"*. По мнению главы государства, вопрос больше всего здесь в психологии. *"Давайте не будем здесь спешить. Придет время и этот вопрос будет решен. Главное, чтобы сейчас люди не боялись прийти на арендованную землю, были уверены, что у них ее никто не заберет. Если у нас законодательства в этом плане не хватает, мы его дополним. Главное - незыблемость права частной собственности"*, - подчеркнул Александр Лукашенко. Вместе с тем президент поручил правительству рассмотреть и решить проблемы собственности для фермеров.

Во время встречи фермеры в числе основных проблемных вопросов, сдерживающих их развитие, неоднократно называли трудности с выкупом арендуемого ими имущества. По их словам, если бы эти здания и сооружения перешли к ним в собственность, то и отношение к ним было бы иным. Тогда они были бы готовы инвестировать в их ремонт и модернизацию значительные средства. *"Это не тот случай, где государство должно держаться за эту собственность, например, старый свинокомплекс, который был бы давно уже разрушен. Я думаю нам нужно продумать, собрать воедино все проблемные вопросы фермерского сообщества, связанные с собственностью, и одним махом их решить"*, - поручил Александр Лукашенко.

По мнению главы государства, получив в собственность имущество, фермер будет активнее вкладывать в него средства, может строить что-то новое, но, по крайней мере, пока новое построит, отремонтирует старое. *"Поэтому давайте от жизни пойдем и решим этот вопрос. Но надо учитывать, что в вопросе частной собственности мы еще только в начале пути. И нам нужно очень осторожно идти, учитывая мнение общества"*, - считает Александр Лукашенко. Президент также поручил упростить систему бухгалтерского учета для фермеров. *"Давайте договоримся железно: мы должны в течение этого года отработать, отрегулировать и упростить до невозможности учет в фермерских хозяйствах. Бухгалтерский учет прежде всего должен быть нацелен на контроль за уплатой налогов"*,

- поставил задачу глава государства. По его словам, это в советские времена нужно было контролировать, куда израсходованы средства, куда пошло топливо, насколько эффективно используется техника. *”А сейчас нужно определить основные статьи и создать самую простую схему бухгалтерского учета, убрав всяческие ограничения. Если у фермера жена без высшего образования отлично справляется, то зачем от него требовать нанимать специалиста с трехлетним стажем работы и высшим образованием? Поэтому по бухгалтерскому учету до конца этого года нужно выработать оптимальную систему”*, - поставил задачу Александр Лукашенко.

***Сергей Кулягин***

Читать полностью: http://news.tut.by/economics/446335.html

# Аб сустрэчы ў Александрыі і “Гарадзецкіх уроках”

**“Давайце ня будзем тут спяшацца. Надыдзе час, і гэтае пытанне будзе вырашана”, — выказаўся Аляксандр Лукашэнка аб прыватнай уласнасці на зямлю. “Галоўнае, каб зараз людзі не баяліся прыйсці на арандаваную зямлю, былі ўпэўненыя, што ў іх яе ніхто не забярэ. Калі ў нас заканадаўства ў гэтым плане не хапае, мы яго дапоўнім. Галоўнае — непахіснасць права прыватнай уласнасці», — дадаў ён у час сустрэчы з фермерамі 2 мая 2015 года ў аграгарадку Александрыя, што на Шклоўшчыне.** Адным з асноўных, праблемных пытанняў, якія стрымліваюць развіццё фермерскіх гаспадарак, што неаднаразовала гучала з вуснаў фермераў, прысутных на сстрэчы — гэта пытанне аб выкупе арэндаванай імі маёмасці. А дакладней — аб цяжкасцях з яго выкупам. Па іх сведчаннях, пры пераходзе будынкаў і збудаванняў ва ўласнасць, стаўленне да іх было б зусім іншым, і фермеры гатовы інвеставаць у іх рамонт і мадэрнізацыю значныя сродкі. “Гэта не той выпадак, дзе дзяржава павінна трымацца за гэтую ўласнасць, напрыклад, стары свінакомплекс, які быў бы даўно ўжо разбураны. Я думаю, нам трэба прадумаць, сабраць разам усе праблемныя пытанні фермерскай супольнасці, звязаныя з уласнасцю, і адным махам іх вырашыць”, — тут жа даў даручэнне Лукашэнка. Слухаючы падобныя завярэнні, адразу прыходзіць на памяць, што дзесьці калісьці ўсё гэта мы ўжо неаднаразова чулі, гэтыя яго доўгаіграючыя выказванні аб неабходнасці вырашэння праблемных пытанняў у сельскай гаспадарцы. Бо безліч сельскагаспадарчых аб’ектаў, збудаванняў, фермаў прыйшло ў заняпад за апошнія два дзесяцігоддзі, але так і не былі перададзены ў прыватную ўласнасць або арэнду вяскоўцам. Яшчэ 28 год таму, ужо ў далёкім 1987 годзе, працуючы дырэктарам саўгаса “Гарадзец” Шклоўскага раёна, Лукашэнка актыўна прапагандаваў новыя формы працы ў сельскай гаспадарцы — арэндны падрад, які, па яго словах, павінен быў выбіць глебу з-пад ног чыноўнікаў. Дадзены досвед прапагандаваўся як у Беларусі, так і для іншых рэгіёнаў Савецкага Саюзу. А ў 1990 годзе нават пабачыла свет ягоная кніга “Гарадзецкія ўрокі”, дзе ён дзяліўся досведам рэфармавання саўгаса і сцвярджаў, што пры пераходзе на новыя формы чалавек становіцца сапраўдным гаспадаром на зямлі. Не на словах, а на справе. Што невялікія адпаведныя калектывы і фермерскія гаспадаркі адраджаюць вёску, вяртаюць яе да паўнацэннага жыцця. Перспектывы новых форм гаспадарання Лукашэнка прапагандаваў і сваім асабістым прыкладам. Паралельна з дырэктарствам у саўгасе, ён быў яшчэ зарэгістраваны і фермерам. “Селянін, рабочы павінны цвёрда ведаць, што арэнда — гэта не даніна якойсці модзе, гэта не павевы часу, а надоўга. Калі ў самыя кароткія тэрміны карэнным чынам не зменіцца псіхалогія людзей, якія адвыклі дзейнічаць па-гаспадарску, нічога талковага не будзе”, — пісаў Лукашэнка ў сваёй кнізе. З тае пары прайшло шмат часу. Многае змянілася: распаўся Савецкі Саюз, Беларусь стала незалежнай дзяржавай, а Лукашэнка яе першым прэзідэнтам. І ў яго з’явіліся магчымасці правядзення рэформаў не ў асобна ўзятым саўгасе “Гарадзец”, а ва ўсёй сельскай гаспадарцы краіны, каб, нарэшце, на беларускай зямлі з’явіліся сапраўдныя сяляне-гаспадары. Але ж што атрымалася ў выніку? Што сталася з “Гарадцом”? Што сталася з беларускай вёскай? У саўгасе “Гарадзец” за гэты час змянілася больш дзесятка дырэктароў.Пра

арэндны падрад там ужо ніхто нічога і не памятае. А на зямлі ў беларускай вёсцы як не было гаспадара, так і няма. Колькасць фермераў у краіне за гэты час скарацілася ў разы. Адміністратыўна-камандная сістэма не тое, што не зжывае сябе ў рэгіёнах, а наадварот, яшчэ больш ахапіла ўсе сферы мясцовага жыцця. Усё гэта прывяло да таго, што адбываецца інтэнсіўнае старэнне і збядненне сельскага насельніцтва. Зачынены сотні вясковых школ, устаноў культуры і аховы здароўя. Моладзь не бачыць перспектывы ў вясковым жыцці. І самае страшнае — з году ў год узмацняецца грабежніцкая палітыка дзяржавы ў адносінах да вясковага насельніцтва. З мапы Беларусі зніклі і працягваюць знікаць тысячы так званых "неперспектыўных" вёсак, зарастаюць хмызняком былыя дабротныя палі і лугі, дзе калісці каласілася жыта і пасвіліся статкі жывёлы. Ды нягледзечы на скарачэнне вясковага насельніцтва, колькасць чынавенства ў сельскіх рэгіёнах і чыноўнікаў, звязаных з сельскагаспадарчай вытворчасцю, пастаянна ўзрастае. Дык чаму ж Аляксандр Рыгоравіч, стаўшы прэзідэнтам, так баіцца прыватнай уласнасці на зямлю і, нават, "махнуў рукой" на свае "Гарадзецкія ўрокі"? Ён разумее, што стварэнне класа сапраўдных гаспадароў на зямлі — гэта рэальная пагроза існуючаму на Беларусі рэжыму. Кіраваць жа людзьмі, патрэбы якіх звужаюцца да "чаркі і шкваркі", значна лягчэй і прасцей. За ўсе гэтыя гады, нават нягледечы на значныя фінансавыя ўліванні (толькі за апошняе дзесяцігоддзе — 45 млрд. даляраў), сельская гаспадарка Беларусі так і не дасягнула адпаведных поспехаў. Фінансы проста не даходзяць да вёскі. Зноўку чынавенства вырашае за селяніна — дзе і якую жывелу набываць, якую тэхніку і насенны матэрыял пастаўляць у калгасы і якія аб'екты будаваць на сяле. У выніку атрымліваецца, што сабекошт аднаго скатамесца на пабудаваных у Беларусі комплексах дасягае да 10 тыс. даляраў, пры еўрапейскіх стандартах — да 3 тыс. еўра, а дзесяткі, сотні мільёнаў даляраў на набыццё жывёлы за мяжой асядаюць у карманах чынавенства. Пабудаваныя на сяле так званыя "прэзідэнцкія" домікі пераходзяць у разрад аварыйных і непрыгодных для пражывання адразу ж пасля іх уводу ў эксплуатацыю, а новая сельскагаспадарчая тэхніка не даходзіць да механізатараў і выходзіць са строю па дарозе з заводаў у гаспадаркі. І зусім смешнымі выглядаюць словы кіраўніка краіны, выказаныя на сустрэчы з фермерамі ў Александрыі, што еўрапейцы зайдросцяць беларускім аграрыям, бо ў Еўропе далёка не ўсе фермеры могуць дазволіць сабе працаваць на вялікіх плошчах зямлі, бо зямля прыватная і канкурэнцыя вельмі жорсткая…Няўжо не зразумела, што менавіта адносіны да зямлі ў Еўропе, канкурэнцыя і спрыяюць таму, што кошты на прадукты харчавання там у разы таннейшыя, чым у Беларусі. Можа быць, Аляксандру Рыгоравічу варта яшчэ раз перачытаць сваю кнігу "Гарадзецкія ўрокі", бо, відаць, у 1990 годзе ён яе не зусім уважліва чытаў. ***Р.Кастусёў***

# Шклоўшчына: да «Дняпроўскага рубяжа» не дайсьці. Зааралі дарогу

***Мэмарыял «Дняпроўскі рубеж», узьведзены з ініцыятывы жыхароў Шклова, стаў недаступным. Дарогу да яго зааралі. Каб пабачыць мэмарыял трэба прайсьці добра ўрунелым полем.*** Напярэдадні Дня Перамогі нам пашанцавала. Да мэмарыялу нехта праяжджаў на машыне. Па пракладзенай ёю сьцяжыне прарваліся да памятнай мясьціны і мы. Апошні раз з шклоўскім краязнаўцам Міхаілам Кучарэнкам мэмарыял аглядалі тры гады таму. Тады ўсё тут выглядала нібы пасьля толькі што скончанага бою. Цяпер акопы ўмацаваныя шчыльна выстаўленымі драўлянымі слупкамі. Праўда, гэта «адзежа» пасьпела падгніць ды дзе-нідзе пад ціскам грунту надламацца. У некаторых месцах грунт асеў і падыходзіць да акопаў небясьпечна. Міхаіл Кучарэнка, былы вайсковец, тым, як аднавілі акопы, незадаволены. Вінаваціць у нядбайнасьці мясцовыя ўлады. «Зрабілі яны гэта крайне няўдала, — абураецца краязнаўца. — Усё гэта ўжо пачало завальвацца, толькі год прастаяўшы, і будзе завальвацца далей. Проста непрадумана ўсё зроблена. Абы цяп-ляп. Усё тут у недаробках, і ўсё зноў абрушваецца. Трэба дарабляць такія рэчы, і ціснуць іх я буду да канца». Салдацкія

каскі, якімі абазначаныя ў акопах стралковыя разлікі, нядаўна пафарбаваныя ў чорны колер. З памятнага знаку абвальваецца тынк і вывальваюцца камяні, зь якіх ён зроблены. Вялізнае пано з пазначаным на ім плянам вайсковых апэрацыяў за восем год выцьвіла. Ля яго вянок. Бліндаж залівае вада, і знутры ён зацьвілы. Міхаіл Кучарэнка доўга апавядае, як пісаў мясцовай уладзе, каб тая аднавіла тое, што ў 2007 годзе было створана з ініцыятывы групы энтузіястаў. Пісаў і расейскаму кіраўніцтву, каб тое паўплывала на ўладу ў Шклове. «Ня ведаю, што думалі нашы кіраўнікі, калі зьнішчаўся мэмарыял, а яны маўчалі. Месца ж тут прапітанае і крывёю, і нянавісьцю, і верай», — зазначае Міхаіл Кучарэнка. «Я даўно знайшоў месцы невядомых для нас баёў 1941 году. Два тыдні байцы 18 стралковай дывізіі намертва тут стаялі і не прапусьцілі ніводнага фашыста праз свае баявыя парадкі. Гэта невядомы подзьвіг, і пра яго варта было неяк паведаміць сьвету. Спачатку я, можна сказаць, у адзіночку капаў вось гэты апорны пункт. Потым да мяне далучыліся студэнты. Улада тады добра дапамагла. Выдзеліла працоўных з прадпрыемстваў. Вось так тут і паўстаў мэмарыял». «Маладаступным ён стаў пасьля таго, як зааралі дарогу да яго, — працягвае краязнаўца. — Я разумею, што ў гонцы за ўраджайнасьцю можна і дарогу заараць. Дзьве жменькі зерня будзе. Калі была дарога сюды, пачалі былі прыязджаць маладажоны, а калі яе зааралі, то пра мэмарыял пакрысе пачалі забываць». За тры мэтры ад апорнага пункту, на беразе Дняпра, абэліск. Да яго таксама дарогі няма. Адолеўшы гразкае поле аглядаю помнік і курганок, на якім ён усталяваны. Леташні вянок на баку. Ранейшыя вянкі скінутыя за абэліскам на стромкім рачным беразе. «Людзі да таго мэмарыялу дужа рэдка ходзяць, бо далекавата, і праз поле трэба прайсьці. Яго збожжам летась засеялі, а калі яно яшчэ падрасьце, то наагул не прайсьці будзе», — апавядае жыхарка вёскі Старыя Стайкі. Жанчына трымаецца думкі, што бурыць яго ня варта: «Няхай ён стаіць. Ня трэба яго чапаць, — кажа яна. — Калі яго заараць, то якія паўгектара зямлі вялікай карысьці не дадуць гаспадарцы. У свой час там і ўрачыстасьці ладзіліся. А раптам усё гэта зноў спатрэбіцца. Ня трэба яго руйнаваць. Няхай стаіць». «Я там быў мо паўтары гады таму», — працягвае гутарку яшчэ адзін жыхар вёскі Старыя Стайкі. «Часам людзі туды ходзяць. Няхай помнік той застаецца. Усё-ткі памяць пра вайну. Каб туды дарогу праклалі — тады б было добра. Летась я здалёк бачыў на флягштоках тры сьцягі — беларускі, расейскі і ўкраінскі. Потым зьнялі іх па восені. Мо сёлета зноў павесяць». Дзеля чаго зааралі дарога да мэмарыялу — высьветліць не ўдалося. У Александрыйскім сельсавеце запэўнілі, што памятная мясьціна на беразе Дняпра не забытая. Пры гэтым прызналі: дабрацца да мэмарыялу няпроста. «Мы ўскладаем вянкі на трэцяга ліпеня — на Дзень вызваленьня Беларусі. Летась там былі ўрачыстасьці. Прадстаўнікі Казанскай дывізіі былі там. Уздымалі сьцягі там. Улетку мы абкошваем вакол памятніка. Цяпер жа да яго практычна не дайсьці. Каб дабрацца — трэба ўзараным полем ісьці кілямэтры з два. І дзяцей цяпер прывесьці немагчыма, каб ім паказаць ды расказаць. Да ліпеня, калі падсохне, мы наводзім там парадак, штосьці рамантуем ды ўскладаем вянкі», — паведамілі ў Александрыйскім сельскім савеце. Мэмарыял «Дняпроўскі рубеж» быў задуманы як аднаўлены апорны пункт дывізіі — з акопамі, бліндажом. Тут жа усталяваны памятны знак і інфармацыйны стэнд. У 2007 годзе мэмарыял зрабілі з ініцыятывы жыхароў райцэнтру. Знаходзіцца ён ля вёскі Новыя Стайкі Шклоўскага раёна.http://www.svabo-da.org/content/article/27002625.html

# Крах модели Халайды

(**Халайда** (мест.) – псевдостратег) Известный белорусский писатель Владимир Короткевич в свое время сравнил Мстиславль с осколком зеркала, в котором отражаются солнце и звезды и вся непростая история Беларуси. В самом деле - с Мстиславлем связаны славные страницы летописи белорусского народа, его духовной и материальной культуры. Интересный исторический факт – с 1180 г. когда князь Роман Ростиславович отписал город в удел своему сыну Мстиславу и Мстиславль стал **столицей** удельного княжества, в его состав входили Кричев, Чериков, Чаусы и, даже, Могилев. С 1352 года Мстиславль в Великом Княжестве Литовском. В 1634 году Владислав 4 дал городу Магдебургское право – право на самоуправление. В 1772 году, после 1 раздела Речи Посполитой, Мстиславль отошел к России, став провинциальным городом Могилевской губернии (уезд с 1777 г.) и к середине 18 века **пришел в упадок**. О былом величии Мстиславля напоминают многочисленные памятники истории, а его каменные мостовые города хранят в себе шаги уходивших на Грюнвальдскую битву воинов. Сегодня город

украшают такие памятники зодчества, как кармелитский костел Успения Божьей матери и Александро-Невский православный храм. Впрочем, слово «украшает» не совсем подходит к костелу – его никак не могут отреставрировать и своим затрапезным видом это когда-то величественное здание основательно портит вид города. Тем не менее, одним из перспективных потенциалов Мстиславщины является развитие музейно-экскурсионной деятельности. Что ж, обращение к истории закономерно - днем сегодняшним Мстиславлю, вернее, местным властям, гордиться особенно не чем. В 2014 году по сравнению с предыдущим годом производство валового регионального продукта упало на 3%, а объем промышленной продукции составил только 77,1% к уровню 2013 года. При этом, отгружено промышленной продукции только 92,2% от объема произведенной. Объем производства по набору товаров-представителей в целом по району составил 59,9% к уровню 2013 года. За 2014 год выручка от реализации продукции увеличилась на 13,9% (радует сокращение реализации алкоголя на 7,3%), при этом рентабельность реализации уменьшилась на 3,5 процентных пункта. В целом по району получена чистая прибыль в сумме 78,1 млрд. рублей и снизилась по сравнению с 2013 годом на 20,7%. Задание по росту зарплаты с начала года выполнено на 98,1% , а район по уровню зарплаты занимает **последнее место в республике**. Инвестиции в основной капитал сократились на 20,8%, при этом частные предприятия инвестиции к уровню 2013 года увеличили в 2,6 раза (не повод ли обратить более пристальное внимание на частный сектор экономики района?). Бюджет за 2014 год исполнен с дефицитом в 2,351 млрд. руб., при этом штрафы с населения и субъектов хозяйствования составили немыслимую сумму для района – 1 млрд. рублей. Как видим, не помогло. Кредиторская задолженность на 1 января 2015 года составила 684 млрд. рублей, дебиторская – 98,6 млрд. рублей – фактически район является **банкротом**. Только одно предприятие района, ОАО «Мстиславльлен», сработало с плюсом в 0,1 процентный пункт при плане ежегодного наращивания объемов производства не менее чем на 3,7%. Провальным был 2014 год для ОАО «Мстиславский маслодельно-сыродельный завод» - только 49,8% к уровню 2013 года - производство масла сливочного снизилось на 90,5%, молока в твердых формах на 86,6%, творога на 81,6%, корма вообще прекратили производить. А ведь в модернизацию маслозавода за последние годы вложено 64 млрд. рублей! Мстиславский филиал ОАО «Домочай» снизил объем производства на 1,9% (инвестиции при этом составили 600 млн. рублей), УКПП «Водоканал» на 3,6%, УКПП «Жилкомхоз» на 7,7%. Экспорт в 2014 году в районе «упал» в 5 раз, импорт – в 200. Товарная структура экспорта: хлеб и хлебобулочные изделия, мясо, овощи, льноволокно и льносемена, сыр и масло. И все это экспортируется только в Россию. Согласитесь, инновационную продукцию на экспорт район поставлять в ближайшем будущем вряд ли будет. В частности, маслозавод практически прекратил экспортные отгрузки продукции, хотя и определен как экспортно-ориентированное производство. Согласно Программе развития Мстиславского района на 2011-2015 гг. удельный вес отгруженной инновационной продукции в 2015 году должен составить 40%, на самом деле мы видим крах в реализации промышленной политики – доля инновационной продукции составляет несколько процентов (не поддается точному исчислению). Район пытается избавиться от убыточных предприятий. База УКПП «Водоканал» выставлялась на аукцион с понижением начальной суммы продажи на 20%. В этом году будет выставляться с понижением цены на 50%. Еще 3 объекта потенциальным покупателям предлагаются за 1 базовую величину. Желающих почему-то нет. В сельском хозяйстве ситуация не лучше - численность скота в районе за год сократилось на 1,4%, реализация мяса – на 18,9%. Средний надой на 1 корову составил 3 466кг (-97 кг) или 97% к уровню 2013 г. Произведено молока на 0,8% меньше прошлогоднего уровня, мяса – на 6,5%. По надоям молока район на 97 месте в РБ. Хозяйства, которые тянут район в низ турнирной таблицы по надоям на 1 корову: ОАО «Селекционно-гибридныц центр «Вихра» - минус 30 кг, СПК «Сож-агро» - минус 251 кг, СПК «Советская Беларусь» - минус 283, СПК «Мишино» - минус 1035 кг за год. В свиноводстве района также масса проблем: СПК «Мазоловский» и ОАО СГЦ «Вихра» снизили производство свинины на 10,7%, что кардинально повлияло на показатели района в отрасли сельского хозяйства. Вряд ли что-то революционное произойдет в сельском хозяйстве района и в текущем году – в 2014 году на 1 условную голову заготовлено 24,2 ц кормовых единиц травянистых кормов – не потому ли на трассе на Мстиславль замечены большегрузные автомобили, груженые сенажом? Местное руководство гордиться тем фактом,

что за 2014 год в Мстиславском районе реконструировано 9 молочно-товарных ферм. В самом деле, работы сделано много в этом направлении. А вот есть ли результат? Посмотрим на областную сводку по производству молока – Мстиславский район сейчас на 13 месте и «доит» только на 3% выше уровня прошлого года. Стоят ли миллиардные инвестиции такой «прибавки»? Впрочем, подобная ситуация наблюдается повсеместно – это ли не крах модели развития сельского хозяйства? Крах модели Халайды. Ведь, фактически, лицо животноводческой отрасли района определяют старые наработки и животноводческие помещения еще советских времен постройки. Или другой пример. В районе активно занимаются мелиоративными работами. Насколько это важно, покажет жизнь, но в прошлом году из-за неплатежеспособности местных субъектов хозяйствования-заказчиков областному бюджету пришлось раскошелиться на 1,2 млрд. рублей для оплаты работ, произведенных мелиораторами. Урок не впрок - в 2015 году по трассе Могилев – Мстиславль (на отрезке дороги Чаусы – Мстиславль) на мелиоративных мероприятиях (по-другому и не назовешь) опять работало 6 пар бульдозер-экскаватор, которые уничтожали растительность в пониженных местах. В результате в конце апреля можно было на полях наблюдать песчано-глиняные мелиоративные «пятна», окультуривать которые придется десятилетиями. Деньги откуда? В чем смысл такой «мелиорации»? Ведь 23 апреля на полях района вообще сельскохозяйственная техника не была замечена на посевных работах. Говорят, солярки не было – вот вам и развитое сельское хозяйство в отдельно взятом районе, вот и смысл «мелиорации». Есть проблемы в районе, которые не решаются десятилетиями – загрязнение реки Вихра стоками очистных сооружений г.Мстиславля. И хотя на реконструкцию очистных сооружений освоено 13 млрд. рублей, технологическое оборудование приобрести так и не удосужились. Впрочем, только для строительства очистных сооружений на свиноводческом комплексе СПК «Мазоловский» не достает 12 млрд. рублей. Один из нюансов реалий мстиславщины - численность жителей района 22,1 тыс. чел. Миграционная убыль за 2014 г. составила 452 человека (+230 - 682), естественная убыль – 162 чел. Итого за год население района уменьшилось на 614 чел. Или за год по населению район потерял крупный агрогородок, которыми также гордится местное руководство (в сельской местности района, кстати, пустует 87 домов). Занимается ли кто анализом ситуации? Или реальные проблемы по наращиванию экспорта товаров и услуг, увеличению рентабельности продаж, снижению затрат, прежде всего, в сельскохозяйственных организациях, рост валовой продукции затмили иные проблемы района? В 2015 г. будет решаться судьба «Дожинок-2016» в Могилевской области. Мстиславский район претендует на почетное их проведение – именно с дожинками связаны фантазии местного руководства по решению проблем хозяйственного и культурного направлений. Насколько же реальны эти фантазии – покажет время, но пока в районе провалено все, что даже нельзя было провалить. Закономерно ситуация складывается в режиме грядущих кадровых изменений. Судя по устойчивости негативных показателей в «развитии» района, кого-то из местного руководства должны отправить на повышение – в Могилев или Минск. Что ж, в государстве, где правит Халайда, такой сценарий и есть предтеча краха всех планов – и в Мстиславле, и в нашей стране.

***П.Мигурский***

**Среднемесячная заработная плата работников Могилевской области** в I квартале 2015 г. составила 5 393,6 тыс. рублей. В бюджетных организациях номинальная начисленная среднемесячная зарплата составила 4 852,8 тыс. рублей. В марте в промышленности средняя заработная плата составила 6 020 тыс. рублей и снизилась по сравнению с мартом 2014 г. с учетом роста потребительских цен на товары и услуги на 11,3%, в строительстве – 6 417,7 тыс. (снизилась на 8,1%), на транспорте и в связи – 6 462,7 тыс. (снизилась на 3,2%), в сельском хозяйстве, охоте и лесном хозяйстве – 4 572,7 тыс. (снизилась на 1,6%), в образовании – 4 618,7 тыс. (возросла на 7,1%). Реальная заработная плата работников здравоохранения в марте на 12,3% выше, чем годом ранее. http://mogilevnews.by/news/25-04-2015-08-09/20662

Рэдактар П.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 14.05.2015г.